# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЧАС ДАСТАВАЦЬ КАМЯНІ

**У беларускіх прэзідэнцкіх сродках масавай інфармацыі паведамляецца пра тое, што падтрымку Б.Ельцыну выказалі ўсе прэзідэнты СНД, не выключаючы А.Лукашэнку. З гэтай нагоды "Пагоня" передрукоўвае артыкул з газеты "Известия" ад 21 траўня 1996г.**

**ЛУКАШЕНКО ШАГАЕТ В НОГУ. ВОПРОС - С КЕМ?**

*Отношения между российским и белорусским президентами, ещё недавно казавшиеся почти идеальными, неожиданно обострились.*

*На московском саммите СНГ, состоявшемся в конце прошлой недели, Александр Лукашенко оказался единственным лидером Содружества, не пожелавшим поддержать Бориса Ельцина в предвыборной гонке. И на пленарном заседании в пятницу, и в беседе с Николаем Сванидзе в программе "Зеркало" белорусский руководитель старательно уходил от ответа на вопрос, кого он хочет видеть во главе России в предстоящие четыре года.*

*Поставленный в один ряд со своими непримиримыми противниками, российский президент нанес ответный удар. Не прошло и суток, как на встрече с жителями Омска Ельцин выступил с непривычно резкой критикой Лукашенко (цитируем по агенству Интерфакс): "Я озабочен ситуацией в Белоруссии. Ну, вышли люди на улицу... зачем их посадили, человек сорок, в тюрьму? Я поговорил об этом с президентом Лукашенко. Демократия - это демократия".*

*В последнее время российские официальные лица не столь уж часто высказывались на международной арене в защиту прав человека. Тем более удивительно, что Ельцин вступился за участников демонстрации 26 апреля, носившей не только антилукашенковский, но и ярко выраженный антироссийский характер.*

*Почему же Лукашенко повёл себя столь неосторожно, фактически спровоцировав конфликт? Причина, очевидно, в том, что по сути своей Александр Григорьевич остаётся политиком гораздо более близким Зюганову и Жириновскому, чем Ельцину. И президентом он был избран именно потому, что обещал восстановить СССР. А Ельцин в глазах сторонников Лукашенко, испытывающих ностальгию по Советскому Союзу, навсегда останется человеком, виновным в его развале.*

*Ни заключение договора о российско-белорусском сообществе, ни объятия перед телекамерами не сделали Александра Лукашенко искренним союзником кремлевского лидера. И в критический момент генетическая несовместимость двух президентов не могла не проявиться.*

*Максим Юсин.*

***АД РЭДАКЦЫІ***

**Як бачна, "Известия" зьвяртаюць увагу перш за ўсё на тое, што беларускі Прэзідент імкнуўся пазьбегнуць выказваньня прамой падтрымкі Барысу Ельцыну. Такім чынам, можна назіраць, што беларускі прэзідент выказаў дзве супрацьлеглыя пазіцыі. Гэтая блытаніна невыпадковая.**

**Газета "Известия" лічыць, што беларускі прэзідэнт не падтрымлівае расейскага калегу таму, што палітычна яму бліжэй Зюганаў з Жырыноўскім.**

**На наш погляд, гэта так. Але ня гэта галоўнае. Галоўнае ў тым, што ў А.Лукашэнкі ёсьць свая, запаветная мара. Зюганаў, Ельцын, Жырыноўскі - гэта толькі сродкі, а ніяк ня мэта. Мэта, як уяўляецца, непрыхаванае жаданьне сесьці на крамлёўскі трон. Пасьля абдымкаў і пацалункаў 2 красавіка першым ня вытрымаў паўзы А.Лукашэнка. Ягоны разьлік, як можна здагадвацца, просты. Ельцын ці то пераможа, ці то не. Пад любы выпадак у А.Лукашэнкі ёсьць адпаведная пазіцыя: ня стане Ельцына - я яго дапамог заваліць, садзіце мяне на трон хутчэй. Застанецца - крыўдна, але што зробіш, прыдзецца чакаць наступныя пяць гадоў.**

**Падобны трук быў скарыстаны яшчэ пад час галасаваньня па пытаньню "развала" Саюза. Тады, згодна стэнаграме паседжаньня Вярхоўнага Савета, А.Лукашэнка ня ўдзельнічаў у галасаваньні, што дало яму магчымасьць стаць на любы бок. Ці пройдзе такі нумар у дачыненьні да Ельцына?**

**Міхась КАПЯЛЮШ.**

## АДЗІН КОНЬ *ПЛЮС* АДЗІН РАБЧЫК

Паводле словаў міністра фінансаў Беларусі Паўла Дзіка, выдаткі на ўтрыманьне ворганаў кіраваньня Беларуска-Расейскага Супольніцтва складуць 11 мільярдаў расейскіх рублёў і 300 тысяч доляраў ЗША штогод. Яны будуць падзелены порыўну паміж Беларусьсю і Расеяй. Нарэшце Лукашэнка дасягнуў роўнасьці з Ельцыным. Варта, праўда, нагадаць, што бюджэт Беларусі складае ўсяго пяць працэнтаў ад бюджэту Расеі і выдаткі павінны былі б дзяліцца ў такой жа прапорцыі, бо атрымліваецца як у старым вайсковым анекдоце: "Пры царах афіцэры елі паштэт з рабчыкаў, пры бальшавіках рабчыкаў стала не хапаць і пачалі дабаўляць каніну ў прапорцыі адзін да аднаго: адзін рабчык плюс адзін конь".

**Станіслаў СУДНІК.**

## "ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ ПАКУТУЮЦЬ ЗА НАШ НАРОД І ЗА НАШ КРАЙ"

20 траўня у Гарадзенскай Катэдры пад час Сьвятой Імшы Божай Ласкі вернікі маліліся і за "здароўе і Божую падтрымку для Юрыя Хадыкі, што праводзіць галадоўку ў вязьніцы, а таксама за Вячаслава Сіўчыка, здароўе якога знаходзіцца ў крытычным стане. Гэтыя людзі пакутуюць за наш народ і за наш край". Імша адбылася па замаўленьні парафіянаў.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**




## ХТО ЁСЬЦЬ ХТО?

**16 траўня ў Маладэчне адбылася сесія гарадзкога Савета. Удзел у яе працы прыняў дэпутат Вярхоўнага Савета Пётр Краўчанка, які напрыканцы сесіі выказаў сваю ацэнку апошніх палітычных падзей у краіне.**

Гаворачы пра падпісаньне беларуска-расейскіх пагадненьняў аб інтэграцыі, сп.Краўчанка зазначыў, што "іншага шляху як ратыфікацыя дамовы проста не існавала, 40-50 галасоў "супраць" нічога не вызначалі, а аднадушная падтрымка ўсіх фракцый дала прэзідэнту і Саўміну своеасаблівы карт-бланш для правядзеньня на яго ўмовах жыцьцёва неабходнай інтэграцыі з Расеяй, у якой залягае сыравінных запасаў прыкладна на $ 30 мільярдаў. Відавочна, што ў дадзеным выпадку ён як старшыня камісіі па міжнародных справах у ВС прагаласаваў "за". Аднак у сп.П.Краўчанкі выклікае вялізарную незапакоенасьць прагназуемы ім развал нашай эканомікі ў выніку пераходу Беларусі на адзіныя з Расеяй транспартныя тарыфы і будучы пераход РФ на сусьветныя цэны на энерганосьбіты, што можа выклікаць кошт іх на Беларусі вышэй сусьветных".

Затым спадар П.Краўчанка даў адказы на пытаньні дэпутатаў і запрошаных на сесію, асудзіўшы арганізатараў мітынга 26 красавіка за запрашэньне на яго прадстаўнікоў УНА-УНСА і за хвіліну маўчаньня па Джахару Дудаеву, якога, па словах прамоўцы, беларускі народ успрымае як верхавода чачэнскай мафіі. З другога боку ён асудзіў і дзяржаўную выканаўчую ўладу, прынамсі, за прымяненьне дубінак, ужываньне якіх паказвае на слабасьць і няўменьне ўладных структур вырашаць узьніклыя праблемы. Што тычыцца высылкі з Беларусі прадстаўнікоў польскай "Салідарнасьці", то рашэньне прэзідэнта А.Лукашэнкі наконт гэтага ён лічыць цалкам слушным. Па яго словах, такое дзеяньне з боку суседняй краіны можна лічыць як умяшаньне ў палітычныя справы суверэннай дзяржавы.

**Алесь ЦАДКО.**

## ЗОРКІ ГАВАРЫЛІ: "СТАНЕТ ГРОМЧЕ ПЕТЬСЯ И ЯРЧЕ ПЛЯСАТЬСЯ"

**Павел Глоба, вядомы расейскі астролаг, у гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" (N 111 за 3.05.96 г.) прадказаў уваходжаньне Беларусі ў Эўразійскі Саюз разам з Расеяй і Казахстанам, а Аляксандру Лукашэнку - Нобелеўскую прэмію міру.**

**Як збываюцца падобныя прадказаньні, можна меркаваць, калі пазнаёміцца з прагнозамі на мінулы 1995 год на гэты раз нашага айчыннага сьпецыяліста ў галіне таямнічых навук К.Сяльчонка. Прапаную вытрымкі з яго артыкула "Год авторитарного гуманизма", зьмешчанага ў часопісе "Третье тысячелетие" N 1 за сьнежань 1994 г. (без каментарыяў і на мове арыгіналу):**

"1995 год - это год утверждения политики "с человеческим лицом", год конструктивного и человеколюбивого "бонапартизма", год гуманистической диктатуры.

...Наконец-то будут созданы "мозговые центры" с бюджетным финансированием, участие в работе которых примут лучшие из лучших, умнейшие из умнейших... наконец-то власть(...) наладит подлинные "связи с общественностью", честно и прямо разъясняя всем, что творится в республике и куда и как мы все дальше должны идти. Конечно, будут и малозначительные издержки в поведении представителей исполнительной власти, но огорчать они будут лишь политиков да закоренелых бюрократов. Нам всем нужен результат - и нам повезло, что в решительный для Беларуси час мы выбрали диктатора-гуманитария...

1995 год - это год инвестиционного бума, роста внутриреспубликанских авуаров частных предпринимателей. Прекратится вывоз капитала за пределы Республики - деньги начнут наконец-то работать для каждого из нас...

1995 год - это год быстро развивающихся "свободных экономических зон", год резкого снижения внешней задолженности и уменьшения дефицита государственного бюджета.

...В 1995 году всех нас ожидает реформа силовых министерств и спецслужб, сокращение армии и гуманизация милиции...

Вообще жизнь наша духовно осветлится, романтизируется, станет легче дышать, станет громче петься и ярче плясаться. Увеличится роль поэтов, ораторов и проповедников, гармонизируются отношения гражданского общества и государства. Наконец-то войдёт в силу нравственный критерий кадрового отбора госчиновников и руководителей. Станут известны долгосрочные государственные сверхпрограммы, заботы о детстве и семье.

Видите - я же предупреждал - Вам всё это покажется чересчур добрым и красивым, приятным и радующим. Но ведь именно так всё и будет. И залогом истинности пусть будет моя личная репутация!"

**Падрыхтаваў Мікалай ХАДОРКІН, г.Гомель.**

## МАЛАДЫЯ ЛІДАРЫ ПАКАЗАЛІ ЗУБЫ

**2-9 траўня ў Менску праходзілі міжнародныя адукацыйныя курсы для маладых лідараў. Курсы арганізавалі Моладзевы Дырэктарат Рады Эўропы, Камітэт па справах моладзі Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі, Усебеларуская нацыянальная Рада моладзевых і дзіцячых арганізацый. Удзел у навучаньні бралі 50 чалавек. Гарадзеншчыну на курсах прадстаўлялі Сяргей Салей (Фонд сацыяльнай абароны студэнтаў і маладых спецыялістаў Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэту), Алесь Пагуляеў (Асацыяцыя маладых навукоўцаў) і Сяргей Гарошка (Хрысьціянская садружнасьць моладзі г.Ліда).**

Сярод удзельнікаў курсаў быў распаўсюджаны праект звароту да прэзідэнта Беларусі і дэпутатаў Вярхоўнага Савета краіны. У дакуменьце адзначаецца, што "фармаваньне маладога пакаленьня адбываецца ва ўмовах узмацненьня грамадзянскага супрацьстаяньня, адсутнасьці свабоднай інфармацыйнай прасторы, ціску дзяржавы на сродкі масавай інфармацыі". У звароце адзначаецца таксама, што ў краіне замарудзіліся тэмпы пабудовы прававой дзяржавы, парушаюцца правы чалавека, растуць сацыяльныя праблемы.

Група маладых лідараў прапанавала накіраваць яшчэ адзін зварот - на адрас Рады Эўропы. У праекце гэтага звароту, між іншым, гаворыцца: "...Зьбіцьцё ўдзельнікаў жалобнага шэсьця "Чарнобыльскі шлях-96", а таксама прадстаўнікоў беларускай і замежнай прэсы і тэлебачаньня, незаконныя арышты маладых людзей, адсутнасьць свабоды слова і саюзаў сьведчаць аб прамым парушэньні правоў чалавека і асноўных дэмакратычных свабод.

На гэтых прычынах моладзь Беларусі, як і ўсе грамадзяне Беларусі, пазбаўлена магчымасьці ўплываць на стан справаў у краіне.

Для усталяваньня нармальных узаемаадносінаў паміж моладзевымі арганізацыямі (моладдзю) і дзяржавай мы патрабуем выкананьня Дэкларацыі правоў чалавека, якую Беларусь падпісала як сябра ААН".

**Вітаўт РУДНІК.**

## ЛУКАШЭНКА, ЯК ДЗЯРЖАЎНЫ СІМВАЛ

Як ужо паведамляла "ПАГОНЯ", 1 траўня актывісты Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня Беластоку ў знак пратэсту супраць парушэньня правоў чалавека ў нашай краіне пікетавалі каля будынку генеральнага консульства Беларусі ў Беластоку. На пікеце быў спалены партрэт Прэзідэнта А.Лукашэнкі. З гэтай нагоды пасольства Беларусі даслала ў Міністэрства замежных спраў Польшчы ноту пратэсту. Паведамляючы пра гэта на прэс-канферэнцыі, генеральны консул Беларусі Міхаіл Сьлямнёў акцэнтаваў увагу на тым, што быў спалены партрэт, які "зьяўляецца дзяржаўным сімвалам" Беларусі.

Каментуючы гэта выказваньне, лідар БДА Алег Латышонак, у прыватнасьці, заявіў: "Беларускі парламант не зацьвердзіў адмены спрадвечных беларускіх нацыянальных сімвалаў, якія і дагэтуль такім чынам зьяўляюцца дзяржаўнымі. Аднак Ціцянкоў, відавочна па загаду Лукашэнкі, у мінулым годзе парваў на шматкі бел-чырвона-белы сьцяг. Калі хтосьці так паступае з беларускім сьцягам, то мусіць лічыцца з тым, што таксама паступаюць з ягоным партрэтам".

Урад Польшчы не прызнаў ноту пратэсту ўраду А.Лукашэнкі, заявіўшы, што пікет адбыўся згодна з польскім правам.

**А.ХАТЫНСКІ.**

## НОВЫ СТАТУС НАВУМЧЫКА

Прэс-сакратар Беларусканага Народнага Фронту Сяргей Навумчык, які знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі ў Варшаве, атрымаў статус сьпецыяльнага прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэту ў Польшчы. Рашэньне аб гэтым аднагалосна было прынята сябрамі камітэту на паседжаньні, якое адбылося 21 траўня ў Менску.

**"Э.-Х."**

 







# СУМЕЖЖА

## ШЛАГБАУМ НА ШЛЯХУ ДА БОГА

**На заходніх межах Беларусі працягваецца будаўніцтва “Бярлінскай сьцяны”. Пра гэта сьведчыць ліст нашага чытача з Вільні Іосіфа САКОВІЧА.**

*“Нарадзіўся і вырас я ў вёсцы Анжадава, якая знаходзіцца ў Крыванцоўскім сельсавеце Ашмянскага раёну. Да гэтага часу там жывуць мае састарэлыя бацькі. Вёсачка знаходзіцца ў 45 кіламетрах ад Вільні і ў 3 кіламетрах ад беларуска-летувіскай мяжы. Трапіць у Анжадава можна толькі па адзінай дарозе, якая ідзе з боку Вільні праз летувіскую вёску Курмяляны (ад яе да мяжы - 500 метраў). Грамадзкі транспарт з Летувы ў Анжадава ніколі не хадзіў. Каб дапамагаць бацькам, я набыў машыну, на якой і наведваў родныя мясьціны. Але на пачатку гэтага года беларуская памежная служба перагарадзіла дарогу шлагбаумам. Цяпер за памежнікаў на мяжы працуе кавалак жалеза, які перакрыў адзіны шлях у родную вёску.*

*Інакш як глупствам гэта не назавеш. Летувісы руху праз мяжу не перашкаджаюць, а беларусы - збудавалі “Бярлінскую сьцяну”! Перагарадзіўшы дарогу, беларускія памежнікі стварылі праблемы ня толькі для мяне. У Летуве працуюць і жывуць сотні выхадцаў з памежных беларускіх вёсак: Анжадава, Нартуны, Бутнікі, Гольманты, Цешканы і інш. Шлагбаум узьведзены ня толькі на іх шляху да роднай хаты і сваякоў. У Анжадаве ёсьць касьцёл. Сярод яго прыхаджан - жыхары летувіскіх вёсак Курмеляны,, Янкуны, Нігібаны і інш. Сёньня іх адгарадзілі ад шляху да касьцёла, да Бога. Сваімі дзеяньнямі беларускі бок перакрыў нават дарогу на агульныя да беларускіх і летувіскіх памежных вёсак анжадаўскія могілкі. Каб трапіць на іх, пахавальным працэсіям даводзіцца ехаць іншымі шляхамі, гадзінамі стаяць на памежных пераходах па абодвух баках мяжы...”*

Дадаць да гэтага ліста можна хіба што наступнае. Дэмагагічна разважаючы пра разарваныя сямейныя сувязі ў выніку развалу братняга Савецкага Саюзу, кіраўнікі самага высокага рангу ў нашай краіне сёньня самі па-жывому рэжуць сем'і беларусаў, лёсам параскіданых па розныя бакі беларуска-польскай ды беларуска-летувіскай межаў, узводзячы шлагбаумы накшталт анжадаўскага. Няўжо браты ў нас толькі на Усходзе?

## ВЕДАЕШ СЛОВА - ЗНОЙДЗЕШ ДАРОГУ

**Завяршыўся першы навучальны год у Гарадзенскай нядзельнай літоўскай школе.**

- Я нарадзіўся ля Енісею, у сям'і сасланых. Дзяцінства прайшло на лесапавале. У бараку жылі дзьве літоўскія сям'і і па дзьве сям'і латышоў, эстонцаў, палякаў: наўмысна нас змешвалі, каб адно аднаго не разумеючы, мы размаўлялі па-расейску. Так і атрымалася: пераехаў у Горадню пад бок Летувы, а літоўскай мовы не ведаю. таму вельмі ўзрадаваўся, калі мінулай восеньню адчынілася наша школа. Адразу запісаўся! - расказвае будаўнік Уладас Павілайціс.

- Ганаруся тым, што мой муж не манкурт, - сказала Галіна Павелайтэне, карэнная гарадзенка. - Каб дапамагчы яму, я пачала наведваць заняткі ў школе і сына Вадзіма прывяла.

Паглядзіце, што робіцца. Гэта сьціплая школка не толькі літоўскі дух, але і сем'і ўзмацняе.

- А я нарадзіўся і вырас у Летуве. У 1944 годзе немцы вывезьлі мяне ў Германію. Калі чырвоныя “вызвалілі”, дамоў не адпусьцілі, а прызвалі ў сваю армію, у якой да самой пеньсіі праслужыў. Літоўскую мову не забыў, але ўзнавіць веды не перашкодзіць, - гаворыць Петрас Капочус.

Цікавы, дарэчы, выпадак. У Горадні вельмі шмат адстаўных вайскоўцаў з усіх канцоў былога Саюзу, яны актыўна ўмешваюцца ў чужое для іх жыцьцё беларусаў, а ці многія з іх успамінаюць сваю “малую Радзіму”, жывуць ёй. На жаль...

Складаныя, па-свойму вельмі цікавыя лёсы ў кожнага вучня школы. Тут і людзі паважанага ўзросту, і “зялёная моладзь” - новае пакаленьне гарадзенскіх літоўцаў. Заняткаў яны не наведвалі!



Узьнікла школа адразу як толькі стварылася абласная абшчына літоўцаў “Тэвінэ”. Колькі гэта каштавала старшыні абшчыны Альгімантасу Дзіргінчусу ведае хіба што толькі яго жонка. Настаўнікаў запрасіў з друскеніцкай школы “Адгімімо” (слова перакладаецца як “адраджэньне”). Кожную нядзелю пры любым надвор'і, скрозь памежныя перашкоды прыязджалі ў Горадню настаўнікі Вяргінія Шэдэнэ, Юратэ і Іонас Янчулісы. А абяцанага ўзнагароджаньня (вельмі сьціплага) так дасюль ні капейкі не атрымалі з-за бюракратычнай валакіты. Дзякуй Богу, на гэты раз вінаватыя не нашы, а літоўскія бюракраты...

- Затое настаўнікі паказалі нам, якімі павінны быць патрыёты Летувы! -сьцьвярджае Ірэна Паўловіч з Грандзічаў.

- Чаму навучыліся за год?

- Чытаць, могуць перакладаць з літоўскай на расейскую ці беларускую мовы. Усё, што скажаш па-літоўску, разумеюць, хоць адказаць па-літоўску яшчэ не ўсе могуць. Навучыліся працаваць са слоўнікамі, гэта вельмі важна, - пералічыла настаўніца Юратэ.

- І вывучылі многа літоўскіх песень, - дадала настаўніца Віргінія.

Апошняя нядзеля была і сьвяточная, і сумнаватая. Скончыўся навучальны год, да восені сабрацца не прыйдзецца... Дырэктар школы “Адгімімо” Стасіс Папарціс уручыў памятныя дыпломы аб заканчэньні першага году навучаньня.

- Гэтыя сьціплыя дыпломы, як і нядзелі, праведзеныя за партамі, будуць вам тымі ўспамінамі, якія чалавека робяць чалавекам! - сказаў ён.

- Размоўная практыка ім патрэбна, - хвалюецца Юратэ Янчулене. - Ах, каб маглі хоць на пару тыдняў прыехаць у Летуву!..

Думаецца, прыедуць. У літоўцаў ёсьць прымаўка: слова ведаеш - дарогу знойдзеш. Словы ўжо ведаюць...

**Д.ЛАЎРЫНОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: група выпускнікоў літоўскай школы са сваімі настаўнікамі.**

**Фота аўтара.**

## ЦІ ПАЎТОРАЦЬ БЕЛАРУСЫ ЛЁС ПРУСАЎ?

**У траўні 1996 года ўжо другая група з Беларусі, сфармаваная Фондам Л.Сапегі, прыняла ўдзел у семінары, арганізаваным Шчэцінскім Адукацыйным Цэнтрам пры Фоньдзе Разьвіцьця Мясцовай Дэмакратыі ў межах сумеснай з беларускім Фондам Л.Сапегі праграмы “Школа дэмакратыі і самакіраваньня”.**




Шчэцін сустрэў буйным квецьненьнем магнолій, бэзу і каштанаў. Вясна шпацыравала па вуліцах горада і ў настроях людзей. Пасьля бурлівых і трагічных падзеяў красавіка-траўня ў Менску нейкім незвычайным паўстаў горад, у якім панавала спакойнае жыцьцё. Арганізатары школы вельмі хваляваліся, нават дапускалі, што сітуацыя на Беларусі можа сарваць наш прыезд. Таму ўжо на вакзале яны пачалі распытваць усе падрабязнасьці менскіх падзеяў і з зацікаўленасьцю чыталі прывезеныя намі сьвежыя незалежныя газеты. Так мы цікавіліся становішчам ў Польшчы і спачувалі палякам, калі ўводзілася вайсковае становішча; так было ў адносінах да літоўскіх сяброў, калі па вуліцах іх гарадоў папаўзьлі савецкія танкі...

Дні заняткаў паляцелі вельмі хутка. Тут не было сумных лекцый, на якіх сьняцца каляровыя сны, хаця падставаў для сну пасьля начных вандровак па горадзе было даволі. Большасьць заняткаў праводзіліся сучаснымі інтэрактыўнымі метадамі. Пад час практыкумаў, у форме дзелавой гульні, замацоўваліся атрыманыя веды.

Гасьцінныя гаспадары паклапаціліся, каб мы пазнаёміліся са Шчэцінам: мы наведалі мэрыю, радыё, тэлебачаньне, мелі шматлікія сустрэчы з моладдзю. Незаважальна, за актыўнай працай і мерапрыемствамі “адпачынковага характару” ды і проста за радасьцю быцьця разам у зусім іншых умовах, праляцеў гэты насычаны падзеямі час.

На прыканцы заняткаў разгарнуўся блок тэмаў, прысьвечаных сродкам мас-медыя ў дэмакратычным грамадзтве, падсумаваньне па якіх зрабіў тэлежурналіст сп.Яраслаў Дабжыньскі. Ён падзяліўся сваім досьведам па асаблівасьцях паводзінаў перад тэлекамерай. Наша моладзь імгненна ўвайшла ў ролю тэлежурналістаў і гасьцей студыі і стала “выпускаць” адну праграму за другой, кожная з якіх потым яшчэ раз аглядалася ўсёй грамадой і аналізавалася сп.Яраславам, ад дасьведчанага вока якога не схаваліся ніякія дробязі.

Пры спатканьнях з людзьмі па-за межамі Беларусі заўжды цікава пачуць, што яны думаюць пра нас. Па маіх размовах з выкладчыкамі, журналістамі, проста выпадковымі людзьмі, з якімі сустракалася ў Шчэціне, паўстаў эцюдны партрэт беларускай моладзі, напісаны палякамі. На іх думку, мы шчырыя і адукаваныя людзі, аптымісты, адчуваем жарт і ўмеем сьмяяцца, здольныя глядзець на падзеі збоку. У адрозьненьні ад польскай моладзі, сур'ёзна цікавімся палітыкай і пільна сочым за падзеямі ў сьвеце. Затое ў астатнім моладзь як моладзь: спазьняемся на лекцыі, па начах шукаем прыгодаў, а ўдзень па-геройску змагаемся са сном на занятках. Але найбольш мяне ўразілі словы, выказаныя кіраўніком праграмы, выкладчыкам ліцэя сп.Пшэмыславам Фенрыхам. Ён выказаў сваё захапленьне прагай і адкрытасьцю да ведаў, якую праявіла наша група, але яго зьдзівіла тое, што шмат хто паміж намі размаўляе па-руску. Дыктафонны запіс аднаўляе разважаньні сп.Пшэмыслава, якія вызначаюцца пераканаўчай логікай: калі размаўляем па-руску, так і думаем па-руску, і ўнутраная пастава ў нас на рускую культуру - і гэта небясьпечна, пры ўмове, што мы хочам бачыць Беларусь вольнай і незалежнай. Ад гэтага, на думку сп.Пшэмыслава, у нас такая прага да “эканамічнай” і іншых інтэграцыяў з “ брацкім рускім народам”. Міжволі ўзгадваецца гісторыя прусаў. Не змаглі абараніць незалежнасьць дзяржавы, з часам згубілі мову, і дзе яны цяпер тыя прусы?

Развітваючыся з самым зялёным горадам Польшчы мы адчувалі, што багаж стаў больш важкім. І не толькі ад набытых сувеніраў і дарункаў, але і ад ведаў і ўражаньняў, якімі ўзбагаціла семінарская праца і сустрэчы з людзьмі.

**Людвіка ВАЛЫНЦОВА.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**24 траўня**

Дзень славянскай пісьменнасьці.

**25 траўня**

**1792 г.** Геранёны (цяпер - Івейскі раён) атрымалі герб.

**1905 г.** У мястэчку Казлоўшчына (Дзятлаўскі раён) нарадзіўся Сяргей Хмара, вядомы пісьменьнік, публіцыст, выдавец.

**27 траўня**

**1895 г.** У вёсцы Погіры (Дзятлаўшчына) нарадзіўся Ігнат Дварчанін, грамадзка-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, доктар філасофіі.

**28 траўня**

**1836 г.** Нарадзіўся Ян Карловіч, знакаміты этнограф, мовазнавец і музыказнавец. У 1871-1882 гг. ён жыў у маёнтках Падзітва (Воранаўскі раён) і Вішнева (Смаргонскі раён).

**1881 г.** Нарадзіўся Іван Луцкевіч, выбітны палітык і навукоўца, адзін з пачынальнікаў нацыянальнага Адраджэньня “нашаніўскай” пары.

**1924 г.** У вёсцы Мікалаева (на Івейшчыне) нарадзіўся Леанід Побаль, вядомы археолаг.

**29 траўня**

**1565 г.** Памёр Мікалай Радзівіл Чорны, славуты палітычна-царкоўны дзеяч ВКЛ.

**1861 г.** Памёр Яўхім Лелевель, гісторык, грамадзкі дзеяч, адзін са стваральнікаў Віленскага таварыства філаматаў.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

## ПЕСЬНІ З АТЛАНТЫДЫ

**З 16 па 22 траўня ў Лідзе праходзіў Чацьвёрты сусьветны зьезд лідзян, які па традыцыі ладзяць Лідская гарадзкая рада Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, Таварыства польскай культуры на Лідчыне імя Адама Міцкевіча і габрэйская культурна-асьветніцкая арганізацыя.**

Цьвіком зьезду стаў Беларускі дзень, які прайшоў 17 траўня. У рамках гэтага дня адбылася прэзентацыя кнігі “Цёплыя вечары ды халодныя ранкі, czyli co spiewano w Feliksowie” з Варшавы, аўтар якой - супрацоўнік часопіса “Творчасьць” Земавіт Фядэцкі. Гэта зборнік беларускіх народных песень, запісаных маладым Земавітам у вёсцы Феліксава Лідзкага раёна ў 1944 годзе і выдадзены ў Варшаве ў 1992 годзе. Як сказаў сам Земавіт Фядэцкі, каб ён чакаў такога посьпеху кнігі, то выдаў бы яе намнога раней. Водгукі прыйшлі амаль з усіх краін сьвету ад Новай Зеландыі да Швецыі. Адзін з італьянскіх беларусазнаўцаў назваў яе “песьнямі з Атлантыды” на той падставе, што зараз іх пачуць немагчыма. І вось “песьні з Атлантыды” загучалі са сцэны Лідзкага дома культуры.

Ансамбль народнай музыкі “Вярбіна” пад кіраўніцтвам Тамары Харашылы і Алены Сечкі з Лідзкага музычнага вучылішча (дырэктар Міхась Баяровіч) падрыхтавалі 12 песень, па шасьці з якіх была зроблена поўная аркестровая аранжыроўка. “Не сячы дуба...”, “Ой, ты грушка мая...”, “Баліць, баліць галованька...”, “Голуб на чарэшні...”, “Ляцела зязюля...”, “Прывыкайце сінія вочкі адны напаваці...”, “Гора маё, гараванька маё...” і іншыя выклікалі ўдзячнасьць прысутных як Земавіту Фядэцкаму, так і ансамблю “Вярбіна”. А разам і тым людзям, ад якіх гэтыя песьні былі запісаны, а найперш Уладзіміру Мальцу, у сям'і якога жыў Земавіт Фядэцкі пад час вайны і ад якога запісаў большасьць песень. Сяброўства іх не засталося незаўважаным. У той час, як Земавіт пасьля вайны стаў дыпламатам , зрабіў першы пераклад і зьдзейсьніў першае выданьне ў камуністычнай Эўропе рамана Пастэрнака “Доктар Жывага”, перакладаў Ясеніна, Акуджаву, Цвятаеву, Высоцкага, а таксама шмат каго з беларускіх паэтаў, Уладзімір Малец павышаў свой вакальны талент у сталінскім ГУЛАГу. Па Лідзе яшчэ ходзіць, і імя яго вядома, хто напісаў данос на Уладзіміра Мальца, у якім Малец абвінавачваўся ў нацыянальных характары песень, якія сьпявае. Гэты данос каштаваў Мальцу больш васьмі гадоў лагераў, падарванага здароўя і заўчаснай сьмерці, а Беларусі - таленавітага самародка беларускай народнай музыкі.

Мне ўдалося задаць пытаньне Земавіту Фядэцкаму:

- Пан Земавіт, адкуль у Вас, паляка, такая прыязнь да беларускай музыкі, песень, культуры?

- Мая польскасьць - зьява даволі ўмоўная. Мая маці з роду Крывіцкіх, што само за сябе гаворыць.

Нарадзіўся Земавіт Фядэцкі ў Вільні, вучыўся ў Вільні, а рос і бавіў усе вакацыі ў маёнтку Лебяда каля Феліксава. Дарэчы, у гэтых мясьцінах быў моцны беларускі рух. Сюды да мясцовага сьвятара прыязджала на лета жонка Радаслава Астроўскага, дырэктара Віленскай гімназіі, шмат моладзі вучылася ў гімназіі. Да гэтаг часу тут жыве былы вучань Віленскай гімназіі Мікалай Малец, які вучыўся ў адным класе з Рагнедай Астроўскай, дачкой Радаслава. Ад яго я першы раз пачуў памяншальнае імя ад Рагнеды - Недка звалі яе ў класе. Земак - і сёньня завуць Земавіта Фядэцкага, які і дагэтуль застаўся для ўсяго Феліксава сваім і родным.

Адгучалі песьні з Феліксава. Былі ўскладзены кветкі да помнікаў Скарыны, Міцкевіча і ахвяраў фашызму ад беларускай, польскай і габрэйскай дыяспараў. Паднялася на некалькі гадзін з акіяну русіфікацыі, абыякавасьці, нацыянальнага нігілізму Беларуская Атлантыда. Яна здолела падняцца ў Лідзе, узьнімаецца ў іншых месцах, і, будзьце ўпэўныя, настане час, калі яна ўсплыве назаўжды.

**Станіслаў СУДНІК.**

 

